


*Не пакідайце ж мовы нашай беларускай, каб не ўмёрлі! Францішак БАГУШЭВІЧ*

# наша СЛОВА

№ 42(52) • 4—10 снежня 1991 г. • Штотыднёвік Таварыства беларускай мовы імя Францішка Скарыны
Кошт 10 кап. (па падпісцы — 5 кап.)


## Поступ тыдня

«НЕАБХОДНА СУР'ЕЗНА ДАПАМАГЧЫ БЕЛАРУСІ», — ДА ТАКОЙ ДУМКІ ПРЫЙШЛІ ЧЛЕНЫ ДЭЛЕГАЦЫІ ЕЎРАПАРЛАМЕНТА Ў ЧАС СУСТРЭЧЫ З БЕЛАРУСКІМІ ПАРЛАМЕНТАРЫЯМІ. Перш за ўсё маецца на ўвазе вырашэнне чарнобыльскіх праблем. У той жа час госці пацвердзілі сваё жаданне арыентавацца толькі на моцны Цэнтр.

*УПРАВА БНФ «Адраджэнне», кіраўніцтва рабочых страйкамаў, Аб'яднанай дэмакратычнай партыі Беларусі, Беларускай сялянскай партыі, БСДГ, Нацыянал-Дэмакратычнай партыі Беларусі, Беларускай Хрысціянска-Дэмакратычнай Злучнасці АПУБЛІКАВАЛІ ЗВАРОТ ДА ГРАМАДЗЯН РЭСПУБЛІКІ, У ЯКІМ ЗАКЛІКАЛІ ІХ ВЫКАЗАЦЬ ПРАТЭСТ СУПРАЦЬ АДНАЎЛЕННЯ ДЗЕЙНАСЦІ КАМПАРТЫІ БЕЛАРУСІ І ЯЕ АБНАЎЛЕННЯ.*

УСЛЕД ЗА АФІЦЫЙНЫМІ ПРАФСАЮЗАМІ, КАНФЕДЭРАЦЫЯЙ ПРАЦЫ БЕЛАРУСІ, НЕЗАЛЕЖНЫМ ПРАФСАЮЗАМ ГАРНЯКОЎ ПАЧАЎ ДЗЕЙНІЧАЦЬ СВАБОДНЫ ПРАФСАЮЗ БЕЛАРУСІ (ЯГО СТАРШЫНЯ ГЕНАДЗЬ БЫКАЎ). У новай арганізацыі не могуць стаяць на ўліку, як робіцца цяпер, работадаўцы. Акрамя таго, пры выхадзе з прафсаюза яго члены маюць права на пэўную частку агульнай маёмасці. СПБ, як заяўлена, будзе незалежны ад якой бы ні было палітычнай партыі.

*ВЫКАНКАМ ЦЭНТРАЛЬНАЙ РАДЫ БСДГ ВЫСТУПІЎ З ЗАЯВАЙ ПА ПРАБЛЕМЕ РАЗДЗЯРЖАЎЛЕННЯ І ПРЫВАТЫЗАЦЫІ. У ёй выкладзены ў агульных рысах механізм прыватызацыі і формы яе правядзення, заяўлены пратэст супраць «дзікай» перадачы дзяржаўнай маёмасці ў рукі былой наменклатуры.*

ПАКОЛЬКІ САЮЗНЫЯ ОРГАНЫ НЕ ВЫКОНВАЮЦЬ ЭКАНАМІЧНЫЯ ПАГАДНЕННІ З БЕЛАРУССЮ, РЭСПУБЛІКАНСКІ ЎРАД ПРЫПЫНІЎ ПЕРАЛІК У САЮЗНЫ БЮДЖЭТ ПАДАТКАЎ, ШТО ПЛОЦЯЦЬ ПРАДПРЫЕМСТВЫ І АРГАНІЗАЦЫІ.

# *Максіму БАГДАНОВІЧУ — 100!*

9 снежня спаўняецца 100 гадоў з дня нараджэння класіка беларускай літаратуры Максіма Багдановіча. Ранні дзіцячыя гады паэт правёў у Гародні (1892—1896), жыў і вучыўся ў Ніжнім Ноўгарадзе (1896—1908) і Яраслаўлі (1908—1916). Скончыў Дзямідаўскі юрыдычны ліцэй у Яраслаўлі (1916) і восенню пераехаў у Менск, дзе працаваў сакратаром губернскай харчовай камісіі. У лютым 1917 года цяжка хворы выехаў у Ялту на лячэнне, дзе і памёр 25 мая.

Усё сваё кароткае жыццё Максім Багдановіч прысвяціў роднай Беларусі. Жывучы далёка ад яе, ён ніколі не




Максім Багдановіч
(1891 - 1991)

*1991 год стаў годам Максіма Багдановіча. Да юбілею паэта ў Беларусі і ва ўсім свеце праходзілі і праходзяць паэтычныя святы, дыспуты, канферэнцыі. У кнігарнях з'явіліся новыя кніжкі, у якіх даследуецца творчасць Багдановіча, а зусім нядаўна выйшаў з друку томік вершаў паэта «Зорка Венера».*

быў адарваны ад культурнага жыцця свайго народа. У кожным творы паэта боль, смутак і гонар за Айчыну, якую ён бязмежна любіў.

Арыгінальнай з'явай у паэзіі стаў цыкл вершаў Багдановіча «У зачараваным царстве». Важную ролю ў фарміраванні густу і арыентацыі паэта адыграла яго перакладчыцкая дзейнасць. Багдановіч перакладаў антычных (Гарацый, Авідзій), рускіх і заходне-еўрапейскіх аўтараў (А. Пушкін, Ф. Шылер, Г. Гейнэ, П. Верлен і інш.). Ранні перыяд творчасці паэта завяршыў яго славуты «Вянок» (1913).

Адным з першых у беларускай літаратуры Багдановіч пачаў распрацоўку такіх складаных вершаваных форм, як тэрцына, трыялет, актава, рандо, санет, скерца, імкнучыся сцвердзіць вялікія вобразна-выяўленчыя магчымасці роднай мовы.

У 1911 годзе пачалася актыўная літаратурна-крытычная і публіцыстычная дзейнасць паэта. Асобае месца ў гэтай спадчыне Багдановіча належыць артыкулам пра Шаўчэнку.

Многія вершы Багдановіча пакладзены на музыку і сталі вядомымі далёка за межамі Беларусі.



Вяззе. Тут жыў М. Багдановіч вясной і летам 1895 г.

Матэрыялы, прысвечаныя юбілею класіка беларускай літаратуры, друкуюцца на 2 і 3 старонках.

*У Доме-музеі Максіма Багдановіча ў Гродне захоўваюцца аўтографы выказванняў Янкі Брыля і Васіля Быкава пра паэта. Друкуюцца па тэксту бюлетэня «Вянок», што быў падрыхтаваны да публікацыі супрацоўнікамі музея і выдадзены Гродзенскім аддзяленнем БФК.*

## Васіль БЫКАЎ: Наш беларускі апостал

Кожны горад мае сваю гісторыю, і чым гэта гісторыя багацейшая, тым большы гонар гарадскіх насельнікаў.

Багацце гісторыі, як ведама, складаюць справы людзей. Добрыя справы. Добрыя справы робяць добрыя людзі. Іхнімі рукамі пабудавана ўсё: дамы, вуліцы, цэрквы, замкі. Але славу гораду, як і зямлі, робяць славутыя людзі. У гэтым сэнсе Гародні пашэнціла — у ёй жыло нямала выдатных, славутых людзей, і сярод іх — наш першы інтэлігент у літаратуры, тонкі і трагічны Максім Багдановіч.

Пасля вайны, як я прыехаў у Гародню, яшчэ не было вядома, дзе жыў малы паэта. Пасля літаратуразнаўцы знайшлі ягоны дом. Памятаю, неяк я ўсё хадзіў па той ціхай зялёнай вулачцы за паркам — прыглядаўся, уяўляў, думаў. У ладным, спраўным дамку жылі нейкія людзі, і я думаў; ці ведаюць яны, хто тут жыў да іх? Ці разумеюць?

Пасля прайшло шмат год, перш чым у Гародні была ўшанавана памяць нашага класіка. Гэта — як заўсёды. Мы, беларусы, якраз тая нацыя, якая не надта шануе сябе і сваё. Болей чужое. А пасля яшчэ скардзімся, што тыя, чужыя, не шануюць нас. Але хто не шануе сябе і свайго, таго не шануюць іншыя. Гэта ўжо вядома.

Усё ж памяць аб слаўных і слынных не толькі суцешвае, але і абавязвае. Абавязвае да лепшага. Ці хоць бы да добрага. Некалі да таго абавязваў гонар роду, славутыя продкі. У нас якія ж продкі... Хоць бы нямногія апосталы дабрыні. Адзінкі з мільёнаў.

Максім Багдановіч — апостал. І ён назаўжды. Але — пакуль будзе існаваць нацыя. Калі ж знікне нацыя, знікне і Багдановіч. Чужым нацыям ён не патрэбны. Чалавецтву ён патрэбны датуль, пакуль у ім ёсць месца нам, беларусам. Але не абы-якім беларусам — цывілізаваным. Бо ён наш апостал, які звязвае нас з мінулым і пракладвае шлях у будучыню.

Там ён даражэйшы для нас.

## Янка БРЫЛЬ: Ён з намі

У гісторыі беларускай літаратуры імя Максіма Багдановіча — адно з найпрыгажэйшых, і разам з тым, з найбольш трагічных.

Ён быў разлічаны на вялікае. Усё, што зроблена ім, дае падставу меркаваць, прадбачыць, быць упэўненым, як многа мог бы ён зрабіць, каб пажыў — проста кажучы — трохі больш... Ён з намі — вечна і звонка, сонечна родны. Хай жа свеціцца яго імя!

## Чытайце «ГАСПАДАР»

У Баранавічах выйшаў першы нумар беларускай незалежнай газеты «Гаспадар». Рэдактар — Здзіслаў Сіцько.

Чытачам адрасаваны артыкул Ліліі Плыгаўкі «Патронка Беларусі» — пра асветніцкую дзейнасць прападобнай Еўфрасінні Полацкай, публікацыя Здзіслава Сіцько «Міцкевіча Айчына» — пра гісторыю Навагрудчыны, у склад якой некалі тэрытарыяльна і гістарычна ўваходзіў сучасны Баранавіцкі раён. Газета змяшчае парады для садоўнікаў і агароднікаў, інфармацыю пра танныя будаўнічыя матэрыялы, апісанне і схемы майстравання пагрузчыкаў.

«Чаго баяцца «Папялушкі»?» — пад такой назвай для бацькоў друкуецца фрагмент са шматгадовых даследаванняў вядомага амерыканскага псіхіятра Бруна Бэттэльгейма, які ўсё сваё жыццё прысвяціў псіхапатычным дзецям.

Будзе надзвычай цікавым для жанчын артыкул мастака-мадэльера Беларускага цэнтра моды Галіны Мяшковай «Мода. Восень 1991». Тут жа гаспадыні знойдуць рэцэпты прыгатавання разнастайных нацыянальных страў.

Пажадаем калектыву рэдакцыі і надалей плёну ў працы.

Л. БАРШЧЭЎСКАЯ.

# Выбранецкая інфармацыйная служба паведамляе

На бальшавіцкія святы — 7—8 лістапада ў Камянцы, акрамя ўскладання кветак Леніну і святочнага кірмашу, у праграме значылася: «7, 8, 9, 10 лістапада — святочная дыскатэка». Цікава, пад якую музыку скакалі юныя ленінцы і старыя камуністы?

* * *

У Пінску Дзяды праводзіліся недалёка ад горада ў лясным масіве, што ля вёскі Вулька-Гарадзішчанская. Некалькі гадоў назад там была знойдзена брацкая магіла закатаваных бальшавікамі перад самым пачаткам вайны людзей — так званых ворагаў народа. На месцы магілы быў пастаўлены драўляны крыж з надпісам: «Тут ляжаць ахвяры камунізму. 1941 г., чэрвень». Афіцыйныя асобы з Пінска і раёна Дзень памяці продкаў праігнаравалі.

* * *

Сесія Пружанскага гарсавета звярнулася да Вярхоўнага Савета Беларусі і да Пружанскага райсавета з заклікам падтрымаць іх ініцыятыву аб нацыяналізацыі маёмасці КПБ-КПСС і перадаць яе на баланс Саветаў. Усіх камуністаў яны заклікаюць адмовіцца ад прэтэнзій на «неправамерна набытую ўласнасць партыі» і не рабіць перашкод пры перадачы гэтай маёмасці Саветам.

* * *

У Берасцейскім касцёле кожны, хто жадае, можа набыць рэлігійныя кніжкі — «Біблію», «Катэхізіс» на беларускай мове. Гэтага не можа зрабіць вернік у праваслаўных храмах горада. Ксёндз Збігнеў Кароляк актыўна вывучае беларускую мову і абяцае ў хуткім часе весці набажэнства на дзвюх мовах. У касцёле працуюць сёстры кармеліткі і шарыткі, якія таксама выказалі жаданне вывучаць мову людзей, сярод якіх яны жывуць. Праваслаўе такіх крокаў пакуль не зрабіла...

* * *

Прыкра, але часта сустракаюцца ў беларускай прэсе паведамленні пра апаганьванне могілак. Зусім нядаўна былі апаганены яўрэйскія могілкі ў Бабруйску, Барысаве, звыш паўсотні помнікаў было перакулена на вясковых могілках у вёсцы Астрамечава (Берасцейскі раён). І вось зноў вандалізм. Як паведаміла «Пінская неделя», разрыты старыя каталіцкія скляпенні ў вёсцы Вылазы. Шукалі золата. Раскідаўшы астанкі пахаваных, вандалы яшчэ і надрапалі на адным з помнікаў свае імёны: «Люда, Маруся, Олег, Витя...»

* * *

18 лістапада 1991 г. у Берасці, калісьці адным з важнейшых палітычных цэнтраў Вялікага Княства Літоўскага, адбыўся ўстаноўчы сход Таварыства «Стары горад». У сходзе бралі ўдзел гісторыкі, прадпрымальнікі, архітэктары, дэпутаты гарадскога Савета. «Стары горад» — гэта добраахвотнае аб'яднанне аднадумцаў ў справе захавання гарадской монакультуры і традыцый горада. Дзейнасць Таварыства «Стары горад» будзе накіравана на развіццё культурна-этнічных сувязей берасцейцаў розных нацыянальнасцей, грамадзянства, веравызнання дзеля напісання сапраўднай гісторыі нашага горада. Таварыства плануе ў перспективе стаць юрыдычнай асобай і адным з заснавальнікаў музейна-турысцкага цэнтра «Стары горад». Асновай цэнтра павінен стаць ландшафтна-гістарычны парк з паменшанымі копіямі будынкаў сярэдневяковага Берасця. Таксама мяркуецца правядзенне выстаў, экскурсій, канферэнцый, даследчая праца, пошук і сустрэча былых берасцейцаў і іх нашчадкаў, раскіданых па ўсім свеце. Ганаровым сябрам Таварыства стаў віленчук Юрась Шаўцоў, які ў 1990 годзе распачаў працу маладых гісторыкаў горада.

* * *

17 лістапада ў Кохтла-Ярве адбылося чарговае пасяджэнне Беларуска-эстонскага зямляцтва (БЭЗ). На ім быў абмеркаваны праект Статута «Жыццё нацыянальных меншасцей у Эстоніі». Многія яго палажэнні, такія, як цэнз колькасці жыхароў, па якому беларусы атрымаюць права на свае школы, садкі, аб'яднанні, права на мову (!), па словах старшыні БЭЗа сп. У. Дзегцярука «адвярнула беларусаў ад такога аб'яднання, што ствараецца, мабыць, былымі інтэрфронтаўцамі».

Было вырашана накіраваць афіцыйны ліст да сп. С. Шушкевіча і прасіць апекі над беларусамі Эстоніі на дзяржаўным узроўні, а таксама растлумачыць палажэнні «Закона аб грамадзянстве» і пытанні магчымага вяртання беларусаў на Бацькаўшчыну. Адразу ж на пасяджэнні пачалося стварэнне беларускага хору. Запланавана і першае яго свята — Каляды.

* * *

На пачатку лістапада ў Стоўбцах мясцовая раённая рада ТБМ імя Францішка Скарыны адчыніла свой шапік. У наяўнасці продажу: «Наша слова», «Свабода», «Наша Ніва», медалі, сімволіка.

* * *

У Менскім педінстытуце з 1983 года існуе суполка «Нашчадкі», якая аб'ядноўвае нацыянальна свядомых студэнтаў. Сябры суполкі займаюцца краязнаўствам, гісторыяй, фальклорам. Суполка падчас летніх вакацый з'яўляецца адзіным у рэспубліцы будатрадам бясплатнай працы. З 1983 года «Нашчадкі» працуюць на раскопках і рэстаўрацыях ў Строчыцах пад Менскам, у Гродзенскім замку, у Гарадку пад Маладзечнам і ў Лоскім замку, што на Валожыншчыне. 6—10 лістапада сябры суполкі хадзілі ў вандроўку па маршруту: Сынкавічы, Слонім, Жыровічы, Косава. Цікава, што падчас вандроўкі, на шляху з Жыровіч у Косава, у вёсцы Харошча яны знайшлі старую царкву. Пры ўсіх відавочных вартасцях гэтая царква, на жаль, не занесена ў «Збор помнікаў гісторыі і архітэктуры Беларусі.»

Інфармацыю падрыхтавалі: Ігар БАРАНОЎСКІ, Андрусь ВАШКЕВІЧ, Ігар МІХНО.

# *Родныя краявіды*



Перад ледаставам. Фота Я. КАЗЮЛІ (БЕЛТА).

## Работнікі гандлю ўступілі ў ТБМ

Магчыма, таму-сяму гэта інфармацыя падасца дзіўнай, але менавіта ў Стаўбцоўскім райспажыўсаюзе створана першасная суполка Таварыства беларускай мовы імя Францішка Скарыны. Днямі тут адбыўся сход гандлёвых работнікаў раёна, на якім і было прынята такое рашэнне.

Выслухаўшы даволі грунтоўныя выступленні аб гісторыі Беларусі і аб працэсе заняпаду беларускасці ў нас у рэспубліцы старшыні раённай рады ТБМ Г. Пяткевіча і супрацоўніка рэдакцыі раённай газеты «Прамень», сябра рады С. Галоўкі, работнікі Стаўбцоўскага гандлю вырашылі прыняць удзел у адраджэнні роднай мовы, уступіць у рады Таварыства. Старшынёй райспажыўсаюзаўскай суполкі абрана Тамара Зянонаўна Кулік, дарэчы, вялікая прыхільніца беларускага слова.

Сяргей ЖОЛУД.
г. Стоўбцы.

*Беларускае замежжа*

## «Голас часу»

Выйшаў з друку чарговы нумар (№156) царкоўна-грамадскага часопіса «Голас часу». У ім знайшлі адлюстраванне трывожныя падзеі, што адбываліся ў Маскве 19—22 жніўня. Скарочана апублікаваны «Маніфест Беларускага Вызвольнага руху», які быў выдадзены ў 1960 годзе ў г. Манчэстэры (Англія).

Пісьменнік Іван Ласкоў адрасуе адкрыты ліст А. І. Салжаніцыну «Сольются в русском море?» як адказ на яго параду «Как нам обустроить Россию».

Яшчэ не так даўно ў нас у друку сустракалася шмат розных меркаванняў адносна беларускай эміграцыі. Нават вельмі часта рабіліся спробы ачарніць эмігрантаў у вачах беларускага народа. Менавіта гэтае пытанне падымае ў сваім нарысе А. Жук-Борскі «Каго здрадзіла беларуская эміграцыя?». Ён піша, што беларуская эміграцыя, у пераважнай большасці, засталася вернай свайму народу, захавала родную мову, веру і традыцыі бацькоў.

Пад рубрыкай «Нарысы па гісторыі Беларусі» друкуецца артыкул Ю. Весялкоўскага «Царкоўныя справы за Альгерда» — пра намаганні князя Альгерда залажыць незалежную Праваслаўную метраполію ў сваёй дзяржаве, якая пасля смерці Літоўскага метрапаліта Феафіла (каля 1330 г.) была падпарадкавана Маскве. Тут жа змешчаны нарыс С. Талеронка, супрацоўніка аддзела гісторыі Беларусі перыяду капіталізму Інстытута гісторыі АН Беларусі «Агінскі і яго час» — пра выдатнага кампазітара і дзяржаўнага дзеяча Міхаіла Агінскага, фарміраванне яго светапогляду пад уплывам тых сацыяльна-палітычных працэсаў, што адбываліся ў Рэчы Паспалітай у другой палове XVIII стагоддзя.

У часопісе чытачы знойдуць заканчэнне публікацыі Ю. Весялкоўскага «Беларуска-польская канферэнцыя гісторыкаў» і працяг нарыса С. Шчэрбы «Незабыты верасень 1939».

Надзвычай цікавай для чытачоў будзе інфармацыя пра чарговую канферэнцыю прадстаўнікоў Беларускага Народнага Фронту і Беларускага Дэмакратычнага Аб'яднання ў Польшчы, што адбылася 27—29 верасня г.г. у Белавежы (Польшча). Галоўнай мэтай канферэнцыі было абмеркаванне палітычных і эканамічных праблем на Беларусі і ролі эміграцыі ў вырашэнні гэтых праблем. У канферэнцыі бралі ўдзел народныя дэпутаты Рэспублікі Беларусь В. Голубеў, Л. Баршчэўскі, У. Заблоцкі, У. Новік і іншыя лідэры БНФ. Запрошаны былі таксама і прадстаўнікі эміграцыі.

Рэдакцыя часопіса «Голас часу» вітае душэўную незалежнасць Беларусі, «усіх беларускіх патрыётаў, якія ў крытычныя дні 19—22 жніўня рашуча выступілі супраць перавароту і рабілі ўсё магчымае ў ажыццяўленні адвечных мараў беларускага народа жыць у Вольнай і Незалежнай Беларусі».

Л. БАРШЧЭЎСКАЯ.

## Лякарня чараўніцы Потахі

ГАРБУЗ ЗВЫЧАЙНЫ. У лекавых мэтах ужываюць гарбузовыя семкі, ачышчаныя ад шалупіння (да 3 шклянак на дзень), «малако» з яго, а таксама ўнутраную мякаць пладоў («мяса», у якім знаходзяцца семкі). Гарбузовыя семкі ядуць пры хваробе мочапалавых органаў і глістах.

Пры хваробе нырак і мачавога пузыра з гарбузовага і каноплянага семені, змешаных у аднолькавых частках, рыхтуюць «малако». Спосаб яго прыгатавання наступны: высушаныя семкі і семя канапель па 1 шклянцы кожных расціраюць у глінянай пасудзіне, паступова падліваючы 3 шклянкі кіпетню, а затым працэджваюць, адціскаюць рэшткі. Атрыманае такім чынам «малако» выпіваюць за дзень. «Малако» ўжываюць пераважна ў тых выпадках, калі ў мачы ёсць кроў і калі з-за спазмаў затрымліваецца мача. Калі піць такое «малако» надакучвае, то яго можна прымаць з крутой несалёнай грэцкай кашай. Яго можна таксама падсаладзіць цукрам ці мёдам.

*Здаровы багатага варты.*

Самі гарбузы, як харчовы прадукт у розных стравах, лічацца ў народзе добрым мачагонным сродкам, які ачышчае не толькі ныркі, але і ўвесь арганізм. Усё гэта яшчэ ў большай ступені адносіцца і да другога віду гарбузовых — да кавуноў. Кажуць, што кавуны — гэта такога роду харч-лякарства, якое заўсёды дапамагае і ніколі не шкодзіць, нават у вялікіх дозах. Сезон кавуноў для хворых з функцыянальнымі парушэннямі дзейнасці мачавых органаў, для хворых склерозам, артрытам і да т.п.— гэта хатні курортны сезон, як сезон суніц.

*Спытаецца старасць, што рабіла маладосць.*

ХВОШЧ ПАЛЯВЫ. У народнай медыцыне хвошч вельмі папулярная расліна, якая ўжываецца пры хваробах нырак і мачавога пузыра. (Некаторыя гавораць, што хвошч як мачагонны сродак уздзейнічае больш рэзка, раздражнае ныркі і ў гэтым сэнсе ўступае больш далікатнаму сродку — лісцям талакнянкі).

Прымаюць напар ці адвар хвашчу ў колькасці 30 г сухой расліны на 1 шклянку вады, па 2—3 шклянкі на дзень. Лічыцца, што ўжыванне хвашчу выганяе ныручныя камяні, зменшае боль у вобласці пузыра, павялічвае выдзяленне мачы, памяншае ацёкі, пухліны і колькасць бялку ў мачы, ачышчае мачаточнікі ад усялякіх шлакаў. Можна думаць, што гэтым самым хвошч паляпшае агульны абмен матэрыі, таму што ўплывае (магчыма, апасродкава) на печань, селязёнку, кішэчнік.

*Хворы здароўе хваліць.*

Хвошч у сумесях:

1. Пры балесных выдзяленні мачы п'юць гарачы чай з напару сумесі травы хвашчу і кветак рамонку пароўну. Прыём — 3 шклянкі на дзень.
2. Пры спазмах мачавога пузыра п'юць глыткамі, але часта, гарачы напар з кветак васількоў і травы хвашчу, змешаных пароўну. У той жа час робяць масажы вобласці пузыра, а потым кладуць на ніз жывата падушачку, напоўненую гарачым распараным хвашчом.

РЭДАКЦЫЙНАЯ КАЛЕГІЯ
Рэдактар Эрнэст Ялугін.
Сябры калегіі: Янка Брыль, Анатоль Бутэвіч, Ніл Гілевіч, Уладзімір Дамашэвіч, Алесь Камароўскі, Анатоль Клышка, Алег Куліцкі, Уладзімір Ламека, Уладзімір Содаль, Алесь Траяноўскі, Генадзь Тумаш, Яўген Цумараў, Генадзь Цыхун, Міхась Шавыркін.
Адказны сакратар Анатоль Сілянкоў.

Наш адрас: 220005, г. Мінск, вул. Румянцава, 13.
Тэлефон рэдакцыі: 33-17-83.

Аўтары надрукаваных матэрыялаў адказваюць за дакладнасць фактаў і іншых звестак. Пункт гледжання аўтара неабавязкова можа адпавядаць меркаванню рэдакцыі.
Рукапісы рэдакцыя не рэцэнзуе і назад не вяртае.

МВПА імя Якуба Коласа.
Мінская паліграфічная фабрыка «Чырвоная Зорка».
Наклад 5.058 пасобнікі. Зак. 2470. Індэкс 74975.